МАРЫЯ БАРАВІК

# *Вір пяшчоты і журбы*

Вершы

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1995

## *Музыка сустрэчы*

Матылёк зажуранай усмешкі
Апусціўся ціха на мурог —
У святло палёў нырнулі сцежкі,
А рамонкі збегліся да ног.

Стаў жаўрук пад сонейка ў палёце,
Толькі ў жоўтым промні не відзён.
І на самай на высокай ноце
Празвінела памяць цёплых дзён.

* * *

У згадках па радзіме сум адзіны:
Як светла думкі ты ні варушы —
Гарыць мая пунсовая каліна,
Гарыць каліна горкая ў душы.

У згадках па радзіме боль адзіны.
І як мінута ліры настае —
Гарыць мая пунсовая каліна
І песня ціха кружыць ля яе.

## *Апоўдні душа баліць*

Апоўдні душа баліць.
Прыйшла душу мне ўкваліць
Сонечная пяшчота —
Во — якая турбота.
Апоўдні душа баліць.
Былі вы?..
Былі...
Былі.
Пара, як гара.
Калі
Былі вы?
Былі...
Былі...

Апоўдні душа баліць.
Лета прыйшло
Палі
Рамонкамі адбяліць.
А вы тут былі?
Былі.
Хадзілі,
Цвілі.
Жылі.
Мяне за ручку вялі,
Як я дачушку вяду
Ў сонейка на віду.

Ў небе хмаркі плылі
І вы па роснай зямлі.
Былі вы?
Былі...
Былі.
Апоўдні душа баліць.

Апоўдні душа баліць —
Дзень той не аддаліць.
І не наблізіць той дзень.
Які танюсенькі цень!

Апоўдні душа баліць.
Я адчуваю: лета
Яблык пайшло спяліць
Праз поле кветак.
Яблык пайшло спяліць.
Лецейка — на закосе.
Чаму ж так душа баліць? —
Яшчэ ж не восень —
Лецейка на зямлі?

Апоўдні душа баліць.
Думкі пара спяліць.
Пара, як гара...
Калі?

* * *

Пчолкі звіняць і чмялі.
Вакол рамонкавыя палі.
Вакол рамонкавыя палі,
А мы сцежачку павялі
За вербай ніцай
Шукаць суніцы.

Мы сцежачку павялі
Па яснай, цёплай зямлі.
Журчым крынічкай
З табой, сунічка.
З табой, дачушка.
А ў тым кірунку
Бяжыць чыгунка
Напятай стужкай.
Каля чыгункі —
Дрэўцы, як стрункі,
У поўны рост.
Ідзём за мост.
За вадаёмам
Справа —
крыжы.
Нехта знаёмы
Вось там ляжыць.
Сонца ідзе борам
У надвячорак.
Танекуць цені.
Адно імгненне...
Скасіла вочка.
Як недалёчка...
Як недалёчка
Шуміць асочка.

Гляджу я ўпотай.
Хіба ахвота
Журыць сунічку?
Журчым крынічкай.
Праменіць цёпла вада.
Ірвецца чыгунка ўдаль.
Лета звініць тонка
У травах-рамонках.
Над табой невялічкай
Сонца — сунічкай.

За табой невялічкай —
Радасць сунічкай:
Кветкі, як хмель,
І бухматы чмель...

Нясу я ўпотай
Сваю самоту.
А дзе самота —
Плыве само там.

## *Сувязь*

Пакажы мне, поле, пакажы,
Дзе мае насіліся стрыжы,
Дзе зямельку тата варушыў,
Толькі да ўраджаю не дажыў.
Пакажы мне, поле, пакажы,
Дзе схавана зернетка душы,
Дзе гармонік татаў на мяжы
І бярозку мог заваражыць...
Можа,
ён бадзёрыў мамін лёс,
Каб уратаваць яе ад слёз,
Дзе на ружу мары ля тынку
Паглядала доля з палынку...
Пакланюся долу, на якім
Неслі долі груз мае бацькі.
Тут пасляваенная трава,
Каб жыццё хоць як магло трываць,
Нечуванай сілы здабыла —
Паратункам выйшла да стала.
Можа,
і ўздыхне раптоўна брат,
І яго адпусціць Ленінград
У аджытым часе пакружыць,
Памяці расінкі асушыць.
І на ўскраю родных Перадол,
Дзе пяшчота спусціцца на дол,

Ой, зашмат у сэрца набяжыць!..
Пакажы нам, поле, пакажы
Брамку, дзе маўклівыя крыжы...
Хай адпусціць грэх душа душы.

## *Вечнае*

Там, дзе радасць жмурыцца ад кветак
І схіліўся колас да пляча,
Паўтарайся колерамі лета!
Поле волі, сінь — тваім вачам!

А ў блакіце згадкі — вобраз мілы:
Абступілі маму васількі —
Да брывоў далоньку прысланіла,
І глядзіць трывога з-пад рукі:

«А ці стане лёс святлом да дзетак?..»
О, далёкі водар навальніц!
Там я песняй узляцела з кветак
І журбою выцекла з крыніц.

І маё дзяцінства там на сцежку
Валасоў рассыпала лянок...
Выгараюць травы зноў на ўзмежку —
Мусіць, з думак не сплясці вянок.

# *Згадка*

Вадзіцель, на тым павароце,
Дзе лотаць на лузе цвіце,
Пакінь ты мяне на пяшчоце,
На думцы, дзе згадка расце.

Бо там, дзе курэе дарога,
Загадку прырода няслa:
На схіле гасцінца старога
Пагладзіла сонца бусла,

Як мог гэты бусел у лютым
Прынесці вузельчык жывы?..
...Парыннік, трыпутнік і рута...
Было тут гаючай травы!

Хвіліначку я запаволю —
Ёсць думка, і сіла, і плён.
І ўсё мне здаецца — на поле
Спусцілася неба на лён...

## *Хатка*

Кнігаўкі, падкажыце,
Дзе была хатка ў жыце,
Што ў паднябессі плыла?
На пожню, да валуна,
Збягала ка мне яна
З-пад воблачнага крыла.

Дзень сонейка вёў на горку,
А ноч узнімала зорку
(Я птушаняткам была).
А ў засмучаную пару
Хатка ўскочыла на гару —
У небе памяці паплыла.

Буслянка мая асветленая,
З небам і полем ветлівая,
З далечынёй заручаная,
Сніцца мне не насніцца.
Бачу бусла з busліцай
Я праз слязінку гаручую.

# *Праабражэнка*

Добры дзень, мая Прэабражэнка!
А вось гэтай хаткі я ўраджэнка.
Мо спытацца ў цёткі Серафімы,
Хто прыходзіў на мае радзіны,
Што было — ці маладзік, ці поўня?
Я хачу той дзень за маму помніць.
І здаецца мне, што напачатку
Угару плыла цяпельцам хатка,
Бо «ку-га» было на рускай печы,
А пад печчу певень мне пярэчыў...
Ці спачнулі ад балючай ночкі
Маміны засіненыя вочкі?..
Ці дала заснуць я хоць на волас?
Доўга я тут спрабавала голас!
Колькі ж іх было, такіх начэй?
І чаму за ўсіх мне балючэй?
Дзе тут родны след, Прэабражэнка? —
Дзіўна — гэтай хаткі я ўраджэнка.
Стала на запыленым гасцінцы
Памяць у зялёненькай хусцінцы
Памаўчаць з табой тут унаглядку,
Да зямлі прытуленая хатка.

## *Перапечка ...сорак шостага года*

Пааднесла нас часіны рэчка...
Тут вядзе на роздум успамін —
Быль пра аржаную перапечку,
Дзе было і голаду, і мін,

Дзе на ганак цётка Серафіма
Гэту ласку вынесла табе.
Праглынуў ты цэлы свет вачыма
І да бору зайчыкам пабег.

Хлебным шчасцем жоўты ранак бліснуў
І слязой прабіўся ў пачуцці...
Але ты яе не ў рот уціснуў,
А ў кішэню моўчкі апусціў.

У сунічным голадзе, у пушчы,
Ухапіла слабасць за каршэнь.
Плыў ты ў сон у камарынай гушчы.
Але думка цэліла ў мішэнь.

Авадні калолі праз кашулю.
Перапечкай ныў пусты жывот.
Ты усё ж данёс яе матулі
І ні крошкі не паклаў у рот.

# *Даруй*

...І знік людскі ручэй ля той капліцы.
Няма каму і перад кім маліцца.
Я толькі хіба памяць умалю —
У сне пабачыць поле на Іллю,
І чуйную сцяжыначку за вёску,
І мамін дзень, і лета, нібы з воску.
Пайду туды маўкліва пастаяць.
Заходзяць, задрыжаць ад жалю плечкі.
З днём нараджэння, вечная мая!
Што падарыць табе?
Агеньчык свечкі?
Чаму ж так лёс журбы наканаваў?
А ці спяваў хто ў дзень твайго з'яўлення?
І сёння прыме цёплая трава
Раскаяння гарачае праменне.
Даруй ты ўсім за дзень маркотны свой,
Пакрыўджаны і дзеткамі, і мужам!
Даруй жа за агеньчык позні мой,
Мая жывая і святая ружа!

# *Мае цені*

У небе — вятох-жаўток.
Жыту пара на ток.
Куды ж табе, каласок?
У жоўты жвірок-пясок?
Ды з-пад таго жвірку
Не выбіцца больш вірку...
Лічыць журба гады.
Бяжыць журба.
А куды?..
Каля сцяжынкі —
Лета дажынкі.
Восень.
Прадонне ночы.
Сняцца маміны вочы.
І да былой вясны
Усё бягуць мае сны —
Гэтага свету сны.
Рознага болю сны.
Збіраюцца каля брамы,
Грукаюцца да мамы,
Грукаюцца да таты
Сны векавечнай страты.
Бягуць мае сны, як цені,
Назад у туман вясенні...

2. Зак. 895.

* * *

Час наш хуткацечны.
Ласкай траў навечна
Ціха прыраслі мы
Да зямлі радзімы.

І на ёй, прыхільнай,
Ёсць спакой магільны.
Да балючай брамы
Мая сцежка — прама.

Ля балючай брамы
Каля таты, мамы
Крылы занямеюць,
І мне ўзняцца неяк.

Вышыня без донца.
Там паўднюе сонца.
І зачырванее...
А паверыць неяк.

* * *

Мама дала жыццё,
Мужнасць і пачуццё,
Думку і дабрыню
Унутранага агню.
Вынесла з сэрца промень,
Каб не цямнела ў доме.
Мама зрабіла многа —
Сэрцам дала мне Бога...
Спазнілася я аддзячыць.
Грэшная птушка плача.

* * *

Я ці цаніла? —
Шчодрыў свет мне белы.—
Злякнулася, як стаў асірацелым.
Асенняе аконца запацела.
Аблашчыць маму я цяпер хацела б
І грэх аплакаць перад ёй дачэрні.
Але ідзе дакор у змрок вячэрні.
І з ночы да мяне выходзіць змрок
Як пакаранне —
з памяці мне ўрок.

# *У мамін дзень*

...І даль на смутак не скупіцца.
Я думкі-ягадкі спялю.
Журбой румяняцца брусніцы
У свята мамы на Іллю.
І рупіцца, і шчодрыць лета,
Ды ад жывых няма сакрэту —
Мне чуецца ў дыханні дня,
Па кім сумуе цішыня...
І чуюць дрэвы і крыніцы.
Я смуткам мужнасць запалю
І памалюся за брусніцы
У свята мамы на Іллю.

## *Пра што шуміць трава*

Усё жыццё мы вучымся трываць...
Пра што яшчэ мне зашуміць трава?
Пакуль праменьчык сонечны пасе
Маю трывогу на яе расе,
У дзень вясенні і ў дзянёк асенні
Ідзе да ісціны балючай узнясенне:
Усё жыццё мы вучымся трываць...
А як нямнога зорцы заравацы!
З гадамі павініцца галава.
Мне на слядах бацькоў шуміць трава.
У колерах жыцця шуміць трава
Там, дзе мяне прасілі даравацы...
Яшчэ не выцвіла маёй сцяжынкі стужка,
Бо з вечнасці чуваць: «Даруй, дачушка!»
Бо захлынаюся святлом ля птушаняці:
Я — зорка, я — травіначка, я — маці.
І ад трывогі мне не ачуняць.
Яна маёй душы велічыня.
Чаму ж так цёпла лашчыцца трава?
І ружавеюць памяці суніцы?
О, нехта мне павінен даравацы
І сам перада мною павініцца!

# *У неспакоі*

Схілюся, бы каліна над ракою,—
Відаць, сумленне не дае спакою:
Усё гляджу ў люстэрка дзён сваіх...
Дачушка-сонейка, гляджу і за дваіх.
У гронках думак смутак варушу,
А ён кладзецца цяжка на душу.
Відаць, сумленне не дае спакою,
Калі махаю я табе рукою,
Калі я грэюся ў праменні вачанятак.
Такі, даруй мне, у мяне занятак —
Схіляцца, як каліна над ракою,
Шумець і чырванець у неспакоі.

## *Раскаянне*

Агеньчык твой пяшчотны пратэстуе.
І сумны дзень мой промаху не рад.
Глядзіць адчай на дочачку малую:
Як супыніць нервовы лістапад?

Навошта гэты вецер і маланка?
І хлыне з сэрца воблака дажджу:
Даруй, мая адзіная заранка,—
Гаркотай я віну апалашчу.

## *Трывога*

Я — у палосцы часу,
Тонкай, як валасок.
На залатую трасу
Кліча твой галасок.

І на пяшчотнай ноце
Стану й маладзей.
Што там шчыміць употай
У глыбіні грудзей?

* * *

Забраць бы мне ў фантазіі свой час —
Аддаць табе, дачушка, да хвілінкі.
Спадае пасма сумная з пляча,
І ціха слабнуць тонкія галінкі.

На свеце сёння вецер нечуваны,
Ля сэрца і ля думкі вецер вые,
І дзень такі балюча-апантаны,
І клопаты, і нервы агнявыя.

Што мне сказаць, выходзячы з гадоў,
Пра нейкі сэнс агню і халадоў?
Я для чаго гарэла цэлы век,
Калі так холадна табе, мой чалавек?

* * *

*Л. Я. Далецкай*

Гады і кветкі...
Дзеткі і гады.
У слоў пяшчотных голас малады.
І памяць мне аднекуль ясна свеціць.
І на імгненне апускае ў квецень.
Хачу, каб Вы адчулі светлы дотык
І ціхай думкай, і душэўнай нотай.
Сустрэча з Вамі —
Там на ўсе гады.
Якія промністыя, росныя сляды!

## *Памяці Міхася Стральцова*

Божа мой, штб — у «ЛіМе»!
Вера таго не пryме.
Скруха твой вобраз піша...
Міша.
Дзень ад вачэй адхлыне,
Лецейка ў песні стыне,
Слоў не стае,
як вішань,
Міша...

Застаўся ў памяці пад крылом.
А што з табою было?..
Рука ад рукі.
Вока ад вока
Былі далёка.
Пакуль адлегласць жывая,
Душа душу адчувае.
І ў дотыку іх — адценне —
Радасці супадзенне,
Два імгненні
ў тым пачуцці —
Дзве сустрэчы ва ўсім жыцці.
У гэтым смутку
Колькі радкоў?
А між сустрэчамі —
Дваццаць гадкоў.

Пасля апошняй —
Адзін гадок,
Кладу тугой
у радок...
Бяды, што так недалёка,
Не дасягае вока.
Была адлегласць жывая...
Была жывая надзея.
А што душа адчувае,
Калі яна сірацее?
Сум.
У жыццёвай бегласці
Ужо няма той адлегласці.

* * *

«Дзе ты згубілася?»

*(З пісьма)*

Да гэтай хвілі
З былога рання
Праз вёрсты-мілі,
Праз прадчуванне
Нясе у «Нёман»
Душа слаўцо...
А ў калідоры —
Міхась Стральцоў.
У калідоры,
У калідоры
Адно другому
Усмешку дорым.
Ён па натуры —
Увесь на «ты».

Там, у пакойчыку,
Дым густы.

Там, у пакойчыку,
Ён — у дыме,
Заняты думкамі...
І не тымі...
У нашай гутарцы —
Просты змест:
Я — у Падсвілле,
А ён — на з'езд...

У тым пакойчыку —
Чалавек...
Мы развіталіся.
І... навек.
Шапталі вусны
Не тыя словы.
Усім іх кажуць:
«Бывай здаровы!»
А колькі ж можна
Бываць...
Бываць?..
Нічога вечнага
Не чуваць.

Ён па натуры —
Увесь на «ты».
Пайду назад,
І згараць масты.
У шматкалоссі
Сум вецер носіць.
І на пакосе
Туга галосіць.
І рвецца голас...
Душа —
у рух...
А дзе ж ты, колас?
А дзе ж ты, друг?

* * *

Колькі рознай гаворкі
Пра вас, мае людзі-зоркі!
Як мала цёплай спагады
У завірухі, у снегапады!
А рух — жыцця, не арэляў...
І вы так рана згарэлі.

* * *

У шчасця — уся аснова —
Жывая душа і слова...
А колькі сказана слоў
Тых, што з пяшчотных сноў?
І настае нараканне
Пасля дарог і чакання...
Няма цябе, чалавеча.
Мару суцешыць нечым.
А што не дае ў жыцці
Да гэтай смеласці дарасці?

* * *

У жоўтым водары асенні лісталёт.
Ці думка на губах, ці горкі мёд?..
Такі самотны і такі вясенні
Выходзіць на касцёр Сяргей Ясенін.
Яшчэ стаіць асенняя вясна.
Ясенін...
Зорка...
Боль
І навізна.

# *Ветразь*

Белеет парус одинокий...
*М. Ю. Лермантаў*

Сышліся вогненна аблокі —
Пайшоў ты ў думку вышыні...
Паэт, твой ветразь адзінокі
Прыплыў да нас з далечыні.

І белы свет яму шырокі.
І ў самай светлай цішыні
«Бялее ветразь адзінокі»,
І прагне ён далечыні.

3. Зак. 895

# Жураўліным лётам

Кіну свае думы жураўліным лётам —
Хай лятуць да сонца у далёкі край.
Сам пайду і сяду пад лазовым плотам
І пра тое сонца буду ціха граць...
І па хатах людзі вечарам лучынным
Пра вясну, пра сонца будуць гаварыць.
Выйдуць на узгоркі з туманоў лагчынных,
Каб вясняным сонцам грудзі апаліць...

*Алесь Дубровіч*

«Кіну свае думы жураўліным лётам»,—
Засмуткуе песня па табе, паэт.
Ой, не наталіўся ты ёй у ахвоту,
А пакінуў небу зорнай мары след.

На якім марозе пальцамі ты кратаў,
Ціха песціў дружбу галасістых струн?
Нешта прадчувалі і бары, і хаты.
І ў сасновым лесе плакаў твой лясун.

Сёння ў новых хатах вечар не лучынны...
Толькі тыя людзі выйдуць на палі,
«Выйдуць на узгоркі з туманоў лагчынных»,
Каб пра іх хто-небудзь памяць запаліў.

З імі — ты, наперад, з бацькам і братамі.
І няма імгнення.
Ці туман, ці дым...
Недзе за даламі,
Недзе за платамі
Доўга рук чакалі,
Вашых рук сады.

Расхіне лагчына цішыню нямую,
І туман чырвовы стане да нябёс...

Пра цябе, паэце, голас узніму я —
Ой, не наталіўся песнямі твой лёс!

І на тое месца, дзе іграў пад плотам,
У самоце сядуць ці не жураўлі...
Над высокім борам і над іх балотам
У зару світання гукі паплылі...

# Завуць мяне

*Да 100-годдзя з дня нараджэння*
*Язэпа Драздовіча*

— Багаты я.
Ну, што, панове?
Дзе беднасць грэецца святлом,
Завуць мяне Язэп Драздовіч,
І роднасць шчодрыць мне жытлом...

— Багаты я.
Ну, што, панове?..
Яшчэ ўсё ліха не сплыло —
Малюе сны мастак Драздовіч
У горкай долі пад крылом.

Ды я не вам кажу, панове,—
Вы для мяне — пусцейшы цень.
Хачу я ўжыцца ў простым слове,
У яснай памяці людзей.

Засланы дол асеннім лістам.
Ці не засвеціцца мой дзень?
Згадай мяне, мой край імжысты,
Тады, як станеш маладзей!

## *1 кастрычніка*

Пад нейкай думкай чалавечай
Свяці, апалае лісцё!
У добры дзень ці ў добры вечар
У беспрытульнае жыццё

Прыйшоў ён ціха, неўрачыста —
Шануе памяць каляндар —
Душой прыязнай, шчырай, чыстай
Зямной радні пакінуць дар.

Той дар, з якім, не меўшы хлеба,
Да вёсак сцежак натаптаў.
Як па зямлі ішоў у неба,
Ужо тады ён знатным стаў.

Не раіў лёс яму гняздо віць...
Аддаў на мілы краявід
Усё святло душы Драздовіч
І выйшаў думкай у блакіт.

Упаў прамень на шлях вандровак.
І памяць нам гаворыць зноў:
У беспрытульнасці жыццёвай
Прытулак ведала любоў.

* * *

Жмурыцца затока.
І з ракіты
Вылавіш і дрэўцы-верацёнцы.
І смяецца глыбіня блакіту,
Цішынёй аблашчана да донца.
А царэўна-рыбка — пад ліліеяй
Распусціла хвосцік-валаконцы.
І рыбак, здаецца, маладзее
Пад апекай ранішняга сонца.

## *Грыбное рэха*

Дай мне, лясок,
Свой паясок.
Ім абвяжуся.
Няхай дзяўчаты
Крычаць заўзята,
Клічуць:
— Маруся!..
Ужо аб дрэўца
Ветліва трэцца
Яснае сонейка...
Хай чуе дуб,
Як песняй вяду
Па струнах сасонніка.
Як я звіню
Табе ў цішыню
З ранішніх баравін.
Грыбное лета
Гукае:
— Дзе ты,
Ба-ра-ві-і-ік?..

# *Мелодыя дажджоў*

У прытулку нашым лясным
Сцежка не карацее.
Прытулілася да сасны
Надзея.

Дожджык цёплы і завадны —
Лета перапацее —
Бачу почырк яго грыбны —
Маладзею.

Пад сітам нас не адных
Доўга пасе ён.
Дожджык шэпча грыбны,
Вядзе як!

* * *

Дожджык ціха ніцее.
А ці ведаю, дзе я...
Дрэвам лясным пацеха:
На мхі, на балоты —
Рэха:
Хто ў лесе?
Хто ў бары —
Гавары-ы-ы!..

* * *

Тужыцца вецер.
Промні зрывае.
Як толькі вецце трывае!
Коціцца рыжы клубок
За дубок.
А той ад ветру адвернецца —
Чмыхне дупло наздрою.
Восень з дажджамі вернецца —
Вецер шуміць настрою.

* * *

Чайка плыве сюды
На хвалі-ка́церку.
Глытае люстра вады
Дождж ыку пацеркі.
А я — асеннія гукі
Душой шчымлівай,
Чакаю нейчай зарукі
Шчаслівай...

* * *

Зноў задажджылася ў позняй сяўбе,
Вецер змогся работай.
Ясень голым сучком дзяўбе
У сцяну адзіноты.

* * *

Ліст уздыхнуў самотна.
Дзіўлюся я ў жоўтым ветры:
Хапае душы пяшчотнай
На доўгія кіламетры.
І думка — у фарбах года.
Слава табе, прырода!

## *Дзякуй, восень...*

Дзякуй, восень, за момант ясны,
Дзе лісточку гасцём прабыць.
Я з усмешкі тваёй дачаснай
Выбіраю святло журбы.

У аконцы маім — трэць неба.
Хмаркі стынуць наперабой.
Дуб — пад колер скарынкі хлеба —
Так задуманы ён табой.

Кінь мне птушку з нябеснай кручы —
Дам ёй зернетка пачуцця!
Як заплакала ты гаруча!
Засмяялася, як дзіця.

І маланка заломіць броўцы.
Думак лісцейка варушу.
Угадайце, якое слоўца
Зноў зачэпіцца за душу.

# *Першага верасня*

Таты і мамы не пастарэлі,
Зноў лістапад ім свеціць.
Сэрцы сагрэлі, думкі сагрэлі
Вашыя ўсмешкі, дзеці.

Лёгка сцяжынкі дыхаюць сёння —
Топаюць ножкі долам.
Свеціцца восені парасонік,
Свеціцца сонца школы.

Каб і настаўнікі не старэлі,
Верасень сее кветень,
Гушкаюць неба вашы арэлі,
Вашыя ўсмешкі, дзеці.

Вуліца наша не пастарэла.
Роем звіняць не пчолы —
Гэта сцяжыначкай загарэлай
Мары бягуць у школу.

## *Адзін*

Апаў лісток апошні з дрэва
На стылы дол жыццё дажыць.
Адзін пад ветравым напевам
Малітву шэпча і бяжыць.

# *Я — бярозка*

Спаліла мяне ты, восень,
Развеяла ты мяне.
Зіма па мне пагалосіць
І вэлюм надзене мне.
І я вясне пакланюся,
І выпрамлю белы стан.
Зноў уваскрэсну я і вярнуся
У аксамітны туман.

## *Бяздомныя*

Я ведаю факт у прыродзе:
Любы чалавек — не анёл.
Ды часта мне смутак наводзіць
Блуканне дамашніх жывёл.

Бывае — іх поўна заўголле.
І ў кожнага быў гаспадар.
Закутак зялёным вуголлем
Мне так і апальвае твар...

А нехта, пад'еўшы па гузік,
Хто выйшаў у двор пагуляць,
Не бачаць, што Боцман і Тузік
У самае сэрца глядзяць...

# Зіма

Загудзела, як у бочку.
І няхай пяе.
Ды пакіну я ў радочку
Думку пра яе.

Па яловых верхавінках
Дзень святло вядзе.
Выйдзе з яснай палавінкі
Раніца надзей...

Засмяецца неба вочка
З-пад брывоў-аблок,
Хоць прыбаўкай у дзянёчка —
Вераб'іны скок.

# *Ранак*

Б'ецца шпак мелодыяй аб ліст,
Аж заранку працінае свіст.
Прыліла да твару неба кроў;
Дзень да промняў прывязаў кароў...

4. Зак. 895.

* * *

У вясны такі харошы твар —
Прыбыло і ўзнёсласці, і мар.

У вясны такі танюткі слых —
Ручайкоў вітанне маладых.

І букеты птушак ля двароў,
І на гнёздах спрэчка — будзь здароў!

А якая постаць у вясны —
Аж да хмарак — кудзеркі сасны.

## *Саліст*

Ціха!..
Радасці не згані,
Як ударыць крылом аб ліст —
У світальнае цішыні
Светла-светла звініць саліст.
Пабяжыцца на край зямлі —
Там усход разгарнуў бутон.
Вы скажыце мне —
Дзе, калі
Так душа заспявае ў тон?
Загуляе святлом вада,
Раскалыша нябесны мак.
Радаєць зябліка і дразда
Лье нам з цёплага горла шпак.

## *Імгненне*

... А неба хлынула мне ў вочы,
Ды раніцы так мала той:
Імгненне — і дзянёк праскоча,
Падкоўкай лясне залатой,
Дзе доля мне на самай кручы
На радасць выдала правы.
Ступаю па табе балюча,
Палоска цёплая травы.

# *Настрой*

Дзе твой агонь?
Не відзён.
Цягнецца марыва дзён.
Я ад цябе не таю —
Квола на кручы стаю.

Клічу цябе на гару,
Крыўдай трывожнай гару.
Ты ж, як каменьчык,—
на дне...
Холадна, холадна мне.

Холадна, холадна мне,
Як безнадзейнасць дыхне.
Хістка стаяць на гары
З нейкай балючай пары.

Зябка стаяць на гары,
Там, дзе гуляюць вятры,
Там, дзе трывога расце
За птушанятка ў гняздзе.

Радасць кладзецца на снег,
Сон летуценны — на смех;
Вецер галіначкі гне.
Холадна, холадна мне.

Кветку агню не тушы,
Ціха пакінь у душы.
Злітуйся ты нада мной,
Сумнай паэмы герой.

Можа, насупраць не я —
Памяць у зорным акне?
І вінаватасць твая
Ці не памоліцца мне?

Ведай, што сіла мая
Рыбкай лягла на пясок.
Гэта насупраць не я —
Болю паспеў каласок.

Зернетка, мабыць, вазьмі —
Бог не сябруе з людзьмі —
Будзем чужымі ці не?..
Холадна, холадна мне.

Кінуць маланкі гужы...
Ой, не кажы... не кажы!..
Восень крылом узмахне.
Холадна, холадна мне.

* * *

Ёсць згадка: твой вясновы хмель,
Аўтобус мой гудзеў, як чмель.
Цябе на крылах вецер нёс
У самы найблакітны лёс.
Няхай жыве той смешны вецер
У той вясне і ў гэтым леце,
Каб нам ды нешта гаварыў
Зялёны ветраны парыў...

* * *

Ты — мая прыдумка.
Вершам пасмяюся.
Да яе, дай Божа,
Мройліва вярнуся.
Некуды далёка
Заляцелі гукі,
Заляцелі вочы.
Вочы ды не рукі...
А да рук самота
Хоча прытуліцца.
За табой, прыдумка,
Плача таямніца.

* * *

Не дай мне, Бог мой, забыцця.
Ужо ляжыць клубок жыцця...
За нітку большае паловы
Балючыя чапляю словы...
Не адрывалася ніколі
Ад летуценнай варажбы.
Але штодзень кідае доля
У вір пяшчоты і журбы.

* * *

Мне кажуць: «Трэба шматгалоссе,
У хоры будзь. Як павялося —
Язык да ноты прывяжы,
Спявай, у воблаках кружы!»
А я ўсё слухаю душой —
Мне песня чуецца чужой.
Мой голас не ўпісаўся ў хор,
Хай выбачае дырыжор!

## *Пытанне*

Спакой наш узрываецца.
Калі?
Пытанне ці высока мы ўзнялі?
Плыве пытаннем воблака над борам.
І можа, кажуць, узарвацца мора.
Жыццё зямное, кажуць, —
пад пытаннем.
Ужо ідзе трывогі нарастанне.
Ніхто яшчэ бяды не аддаліў.
А многа хто сумленне запаліў
І заглыбіўся ў ісціну пытаннем,
Каб не было ківання і глытання?..
Каго хвалілі мы?
Каго клялі?
І колькі ёсць пытанняў на зямлі?
І колькі чалавек спазнаў вяртанняў
Да ўсіх вялікіх і малых пытанняў?
Душа ў пытанні білася не раз:
Як на пытанні вырасціць адказ.
Вяло пытанне думку да паўстання.
А сэрца...
Не ўзрывалася пытаннем?
Ці ўмеем мы схапіцца за пытанне,
Якое можа стаць выратаваннем?,
Пакуль трымаю я за вастрыё
Пытанне вечна горкае сваё,

Душа баліць і б'ецца аб пытанне
У сполаху начы перад світаннем.
Жыву яшчэ,
пакутую,
баюся —
Не жыць, як ад пытання адвярнуся.

* * *

Стаміла слых жыцця мажорнасць.
Ды боскія не зніклі рухі,
Дзе правіць дух любві і скрухі,
Душы святая непакорнасць...

І лёг прамень на ілюзорнасць.
У дум начных такая зорнасць!
У зорнасці такая сіла!..
Каб для яе ды нас хапіла!..

* * *

Асенні момант ачышчэння —
Душы і лісцейка свячэнне.
На хвалі сцішанай — вясло,
Дыханне думкі, шэлест слоў.
Штосчас я ў гэтую пару
Пяро праменнае бяру.
І чую — кажа мне двайнік
(Майго натхнення чараўнік):
— Ты лепшым почыркам душы
Радок балючы напішы.

* * *

Душа, ты ўмела вобразы ляпіць.
Я не хачу кахаць —
хачу любіць.

* * *

Быў дзень з усмешкай маладой,
І слоў было слата слатой...
Цяпер тут гушкаецца вецер
На сонным, раўнадушным вецці.
Спявае нам пра ўсё на свеце:
Як дождж шуміць, як сонца свеціць,
Як кружыцца і плача лісце...
Быў дзень з усмешкаю...
Калісьці...

* * *

Воля фантазіі, думка прасторная
Светла душу калыша.
Гэта не я, гэта воблака зорнае
Зорныя вершы піша.

Месяц прытуліцца жоўтай шчакою
(Воч у нябёс — як вішань) —
Ясніцца воблака,
Жаркай рукою
Ясныя вершы піша.

Неба разгорнецца сіняй ракою,
І зварухнецца ціша —
Белае воблака
Белай рукою
Белыя вершы піша.

* * *

Твая рука,
Твая далонь —
Ці то снягір, ці то агонь.
З галінкі памятнай зары
Злятаюць дружбы снегіры.
І словы з вуснаў трапяткіх
Злятаюць радасна ў радкі.
І думка дзеліцца святлом.
І сэрца поўніцца цяплом.
Хай наступае Новы год
З жыццём, як белы параход.
І ў карагодзе нашых муз
Страсе душа жыццёвы груз.

* * *

Кажа вясна:
— Ноты раздам,
Каб дапазна
Слухаць дразда.

Што ні кладзі
Сёння пад вушка —
Сон украдзе
Мілая птушка.

# *Песні*

Месяц,— глядзі!
Вецер,— не вей!
Ноч, як струна...
І салавей...

Промні зары
Расцерушы!
Хвалю душы
Раскалышы!

Сон пакладзі
На валасок!
Я бласлаўлю
Твой галасок.

* * *

Ці запяю?—
Там парадыст
Песню маю
Аперадзіў.

Крыльцаў узмах...
Ах ты,мой птах!
Чулі зачын
Сярод ляшчын?

Раніца — скок!
Сонейка — пых!
Лушчыць шпачок
Песню на слых.



# Рух

І зачарнеўся грак з бялюткай звесткай.
Дымком паслаўся рэчкі рукавок.
І выйшаў дзень, блакітны, як пралеска,
І сыпануў травой на астравок.

Плыве на рунь хмурынка ці надзея?
І гром буркоча недзе ў цішыні.
Вясна сяўбы.
І дзень перапацее
На возе навальнічнай цеплыні.

Дрыжыць-дрыжыць жаўрук на промні веснім.
І ледзь задрэмяць зоркі на расе —
Перавядзе дыханне зноў на песню
І досвітак у горле прынясе.

# Сны

Снежань — свежы.
Пра студзень
Гаварыць не будзем.
А люты —
Наскрозь прадзьмуты.
А люты —
Святлом раскуты.
А люты —
Адны пакуты:
Адны чаканні
Спатканння...
Бягуць пад падушку
І ў самую душку
Залатыя сны
Вясны.

## *У вырай*

А вам зноў збірацца трэба.
І дзень узнясе з зямлі вас.
Туманіцца знізу неба,
І сонца вісіць, як сліва.

Пажар у вадзе знікае.
Глядзіце, смуга якая...
А вам зноў паверыць трэба —
Пад'ясніцца знізу неба.

А вам азірнуцца трэба —
Быў дзень вышнёй шчаслівы —
Чародка ляціць у неба,
І захад дрыжыць залівам.

І там, дзе прытуліць неба,
Каб сілы адчуць змаглі вы,—
Птушыная песня трэба.
А ў песні — матыў шчымлівы.

Хай душы растуць на гукі,
А рэчкі палаюць з донца.
І промні да вас, як рукі,
Працягне радзімы сонца!

* * *

Лістам кладземся мы і ўстаем.
Дай нам цяпла, прырода!
Хоць халадзеюць рэчкі твае —
Мара шукае броду.

Доўга душа агонь аддае,
Думка праменіць словам.
Восень нам хоча, дрэўцы мае,
Пазалаціць галовы.

Ціха яна дзянёчкі здае,
Свеціць лісток кляновы.
Час адыходзіць, час настае
Ліст зачынаць занова.

Сонейка права нам не дае
Ноты губляць вясновай.
Тут, на зямлі, дзянёчкі мае —
Гэта мая выснова.

# *Адлёт*

Вяслуюць у небе птушкі
Над берагам запаветным,
А хвалі там, як падушкі,
А лодачкі ледзь прыкметны.

Нядаўна яшчэ над полем
Вясёлка зламала дужкі.
І промень дрыжыць ад болю —
Вяслуюць у небе птушкі.

Вяслуюць высока, дружна.
Іх неба бярэ пад крылы.
Журба узляцела мужна
І з неба загаварыла.

Сказала: «Да пабачэння,
Лясныя, рачныя стужкі!»
Асенняе засмучэнне —
Вяслуюць у небе птушкі.

* * *

Восень імжыць на сцежку,
Мары ідуць за вёснамі.
Не спалахні ты ўсмешку —
Ціша стаіць за соснамі.

Дождж астудзіў галінкі.
Зябка ад шызай замеці.
Ягады-журавінкі
Спеюць у цёплай памяці.

## *Блакітніца*

Радзіма — ціха выльецца
Слаўцо з душой у повязі,—
Перад табой, блакітніца,
Мая любоў — на споведзі.

З табой мне не цямнеецца,
Лёс на прамень надзеецца,
Дзе свеціцца, блакіціцца
Зямлёй і небам жытніца.

Усё, што з думкі выльецца,
У пачуцця — на повадзе.
Мая душа-блакітніца
Перад табой на споведзі.

# *Позірк*

Лермантаў нарадзіўся ў ноч
на 15 кастрычніка.

Мяжа цяпла і холаду зямнога,
Ты нарадзіла месяца начнога...
А ён глядзіць з нябеснага парога
Туды, дзе ёсць і прага, і знямога,
Дзе апантаны дух адчуў палёт,
Дзе б'ецца Муза рыбкаю аб лёд,
Дзе — беднасць духу,
беднасці — багацце...
Глядзіць ён сумна на планету-маці.
Той позірк — промень востры над сусветам...
Будзь блаславенны гэты час паэта —
Мяжа цяпла і холаду зямнога,
Дзе ходзіць смутак і змагання многа,
Дзе Муза прагне голасу святога,
Каб клікаць душы светлыя да Бога.

* * *

Прыйшла пара ласкавага агню —
На павуцінцы несці цішыню...
І стала Муза наша на калені
І апаліла вусны аб праменне.
І пэўна, ў дзень такі Сяргей Ясенін
Слязой скаціўся у туман асенні.

## *Пад вясёлку*

Плача душа надвор'ем...
Ды паратунак мой:
Я берагу сузор'е
Светлае над табой.
Дзе ж тут вясёлкі дужка?
Выйдзі, праменьчык-гном!
Станем з табой, дачушка,
Пад залаты залом.

## *Казкі-пытанні*

Ідзём мы з ёй ціхай вуліцай.
Мая дачушка да мяне туліцца.
Просіць мая дачушка з ласкі,
Просіць,
Выпрошвае казкі.
Пра дзяўчынку непаслухмяную
І пра кветку духмяную,
Пра зломаную галінку клёна,
Што нядаўна была зялёнай.
Пра дождж і пра вербу ніцую,
Пра святлафор і міліцыю.
Пра Ленінград і метро.
Я казкі, нібы вядром,
Чэрпаю са звычайнай рэчкі
І паліваю, як агурэчнік,
Яе пытанні наіўныя,
Такія шчырыя, такія дзіўныя...
Што ж, у жыцці знойдзе ўвязку
Кожная такая казка.
А можа, для нейкага пытання
Наступіць потым світанне?
Ідзём мы з ёй светлай вуліцай,
І я баюся расчуліцца.
Ідзём мы з ёй ціхай вуліцай.
Якое ж пытанне мне муліцца?

## *Мая пралеска*

Уся я — у тваёй слязінцы,
Пралеска родная мая.
Якога ж лепшага гасцінца
Магу чакаць ад долі я?

У ёй агонь быў запаветам.
І ты мне запаліла дзень.
І над маленькаю планетай
Гарыць загадкавы прамень.

Удзячна лёсу я за ласку —
Зрабіць надзею маладой.
Мая душа дайшла да бляску —
Усё тут свеціцца табой.

6. Зак. 895.

# *Прамень*

Я, мусіць, думкай азірнулася.
Чамусьці мне самотна, брат.
І нездарма табе пачулася:
Алё! —
Падсвілле.
Ленінград?..
Ці не зашэпча лета коласам?
У нейкі момант, нейкі дзень
Імкнуся я душой і голасам
З былога вынесці прамень.
Згадай, браток, як там, на ганачку,
Дружбак Паўлюк разявіў рот:
«Давай, Мацвей, давай «Цыганачку» —
Няхай пацешыцца народ!
Правер гармонік свой на вытрымку!
Мажор! — і сэрца навылёт!
Глядзіце, людзі, што за выпраўка!
Ах, ваша закусь! Дзе мой мёд?»
А мама кажа: «Маё сонейка,
За стол садзіцеся спярша,
Душу ты вытрасеш з гармоніка...»
І родна свеціцца душа.
Мая каса звісае коласам.
І песня юная звініць...
Цяпер не дакрануся голасам
Да вечаровай цішыні.

# *Залатая ліра*

Спі, мая Марычка!
Баю, баю — баю.
Зорнаю крынічкай
Я ў цябе сцякаю.
Баю, баю — баю.
Неба зорным вірам.
Месячык трымае
Залатую ліру.

Песня прарастае
У душы і мары.
Баю, баю — баю.
Мая птушка Мара.
Зноў бяжыць у казку
Сцежачка прамая.
Слухай, калі ласка:
Баю, баю — баю.

Над табой гуляюць
Зайчыкі па сценах.
Я твой лёс люляю
Ціха, летуценна.
Баю, баю — баю.
Дзень ускіне броўцы.
Хай жа выспявае
Думка у галоўцы.

Неба фарбай міру
Вочкі напаўняе.
Залатую ліру
Сонейка трымае.
Хай жа будзе песня —
Ні канца, ні краю...
Спі, мой промень весні!
Баю, баю — баю.

* * *

Ёсць — што душа гарыць, як зорка.
Ёсць — што падумаць прыкра, горка...
Ёсць шэльма, ёсць і недарэка —
Якім ні ўбачыш чалавека!
А нейкі ж тып пераважае
У чалавечым ураджаі...
Скажы, за чысціню азёр
Ці пазмагаецца фразёр?
Бяда, калі ў маім народзе
Адно фразёрства будзе ў модзе!
Хоць сёння свежы вецер вее,
А хто з нас слухаць душы ўмее?
Заўсёды праўду-спарыша
Шукаем там, дзе ёсць душа.
За гэта дзякую прыродзе —
Душа не падуладна модзе.

* * *

Напышлівасць і ў нашым агародзе
Расце, раскараняецца ў прыродзе.
Тут раптам бестактоўнасцю павее...
Не дайце ёй крыніцу засушыць!
Хай маладая сціпласць ружавее
І кветкай раскрываецца з душы.

* * *

Звініць шчымліва-тонка пачуццё.
Дзень заўтрашні яшчэ не мае грэху.
Схілюся шчырай думкай над жыццём,
Над тым жыццём — раскушаным арэхам.
Прыйшло натхненне — струны
зварушыць.

Такія думкі сёння завадныя!
Спяю вам біяграфію душы —
Руку мне дайце, грэшнікі зямныя!

* * *

Скарылі рэчы розум чалавечы,
І прыхамаць лягла яму на плечы.
Пад корань для яе — і вёску, і радню!
Дзень новы настае
(ці давярацца дню?) —
Дзень скрыўджаных лясоў, палёў і рэк...
Дзень новы настае...
І чалавек.

# *Пражыты дзень*

Нічога у нябыт не адплыло,
Пакуль бяру я памяць на крыло.
Са мной гаворыць мой пражыты дзень.
І ён мяне на яснасць навядзе.
Пражыты дзень маіх трывог, надзей...
Пражыты дзень, сяцці яшчэ прамей.
Пражыты дзень — дакор, туга і цень.
Даруй ты мне,
Даруй, пражыты дзень!
Ты — мой, пражыты дзень.
А я — твая.
Як плача Муза светлая мая!

# Мая Муза

Стаіць самотна Муза ля бярозкі,
Дзе знікла сцежка і не стала вёскі,—
Трымае мужна зернетка любові
Да мілых фарбаў роднасці у слове.

# У новы дзень

У новым дні
Мне не стае радні.
Я ў неспакоі.
Хто ж у цішыні?
Хто — на паверсе?
Я — углыбіні.
Хто там унізе?
Я — увышыні.
А хто ўпацёмку? —
Вось вам мой прамень
У новы час,
У новы мужны дзень.
Зліёмся ў думцы там,
адкуль зара —
Вястунка чалавечага дабра.
Душа рванецца.
А з душы — гара.
Амаладзіцца годнасці пара!

* * *

Час, не пазбаў наш розум вышыні —
Пусці жывы струмень пад карані.
І праўдзе дай сцяжынку ад парога.
Віток...
Другі...
А там, глядзіш —
дарога.

* * *

Прасветленая думкай адзінота —
Такая нота...
Што ж? —
Такая нота...
Не пажаўцелі раўнадушша кроны.
І ў душы часта каркаюць вароны.
Праз лёс радзімы сёння як ніколі
Іду далей, прасветленая болем.

# *Малюся святасці*

Да святкавання 500-годдзя
Францішака Скарыны ў Падсвіллі,
у Вялікдзень 15 красавіка.

Хай памяць розуму ўваскрэсне!
На Вялікдзень не тыя песні...
Не ўсё ў нас так (відаць з гары нам),
Як ты б хацеў, Францыск Скарына.
І не пра гонар, а пра сорам
Так часта сёння мы гаворым...
Што ж, для цябе другога дня
Не выкраіла тут радня.
І ты пастаўлены у цень
У сімвалічны Вялікдзень.
Ды ў храме памяці, у цішы,
Малюся святасці, Францішак,
Малюся мудрасці сябрыны
За ўваскрашэнне дум Скарыны.
Свяціся, верш, слязой адлігі!
Ратуйма розум, дух і кнігі!
Бяда свавольства, не скары нас!
Даруй ты нам, Францыск Скарына!

* * *

Падрасцеш, казалі, памацнееш...
Думалася — сіла ёсць ва ўзросце.
Толькі сёння кволіцца надзея.
Што за сіла навастрыла восці?
Што так коліць у душу адчаю,
Калі я другую прывячаю
Гэткую ж пакутную душу,
Калі беды нашы варушу?
У дзяцінства згадкай заплыла.
Можа, там я моцная была?

* * *

Нас слепіць ціхая затока —
Міраж-агонь кідае ў вока.
А я плыву далей, далей.
Мяне, той бераг, не жалей!
А я плыву далей, далей,
Туды, дзе наяву святлей...
Пагладзь мне, вецер, галаву.
Змагаюся.
Ці даплыву?

# *Прызнанне*

Было — злякнулася спярша.
Затым збалелася душа.
Збалелася за сінь пралесак,
Стаптаных на паляне лесу:
І зліўся з болем позірк сіні
На пакалечанай рабіне.
Збалелася за хлапчука,
Чыя азартная рука
Пусціла сілу камяня
Ў сабаку на пачатку дня;
І за вавёрку на сасне,
Што скардзіцца на нас вясне.
Збалелася за гнёзды птушак,
За пакалечаныя душы,
За дабрыню, за чысціню,
За вышыню, за цішыню,
За памяць учарашняй явы,
Ад сораму людской няславы,
Ад жудасці, што нейкі нелюдзь
З людзьмі зямную сцежку дзеліць.
Збалелася ад пышнай фразы,
Ад чэрствасці людской, абразы...
Збалелася за дождж і снег
Пасля чарнобыльскай вясны,
За новы погляд, новы смех,
За гэту спробу навізны.

Збалелася за чалавека,
За шчырасць дня, за праўду века.
Не суцяшай мяне. Спярша
Скажы: загоіцца душа?..

## *Забыліся*

Аблічча у нас якое?
Забыліся, дзе выснова —
Збіваемся на чужое,
На думку чужую, слова.
На песню чужую, моду,
Забыліся, хто наш продак...
Нехта даўно гатовы
Збавіцца роднай мовы
І на ствале радаслоўнай
Вісець галінкай умоўнай.

## *Да вас*

Да вас, каго душа жадае,
Імкнецца думка маладая.
Ды вее на пялёсткі час...
Як закіпелі блікі-цені!..
Трагічна-светлая да вас
Іду з далёкіх летуценняў.

* * *

Тут навакол такое поле,
Што ад травінкі цягне болем.
Тут пада мной такая глеба,
Што я нясу трывогу ў неба,
Такая голь,
Такая золь!..
Пачуйце і зніміце боль.

* * *

Ля явы экалагічнай
З думкай стаю трагічнай:
Трэба святой работы...
А колькі вакол ляноты!

## *На зыкінскай хвалі*

Такая сціпласць і такая веліч,
Што маладыя сосны анямелі —
Пачуў Барок, як Зыкіна пяе,
І патануў у голасе яе.
А голас б'е крылом па абеліску.
Ці гэта памяць падступіла блізка?
Ці плача лёсу горкага прарок? —
На хвалі зыкінскай плыве жывы Барок.

* * *

Захапляўся, плакаў толькі Бог...
Чалавек глядзеў і еў пірог.
... Дзе сябе паспелі засушыць?
І калі, скажыце, так заплеснелі?
Ля чароўнай Музы — ні душы.
А прыйшлі, прыехалі за песнямі.

## *Надзея*

Мне сёння корань роднасці баліць.
І слову беларускаму панура.
Відаць — жывінку нам не запаліць,
Як раўнадушша вылезе са скуры.

Бярэцца за прамень мая радня.
Мы грэем дрэўца на збяднелай глебе.
А можа, з гэтай повязі і дня
Яно рванецца на святло у небе?

* * *

Плачу ад прасвятлення —
Хопіць перасцярогі.
У сутнасць свайго сумнення,
У сутнасць сваёй трывогі
Клічу душу зямную:
Родную —
не чужую.

# *З нябёсаў*

І мы з табой,
І час небезгалосы...
Бывае — раптам траплю на нябёсы,
Каб з вышыні злавіць вачмі надзею...
А як зірну —
адразу анямею.

* * *

Мы пяём з табой пра дух народа,
А навокал скрыўджана прырода...
Раптам думка, спелая, як вішня:
Багацець душою нам не лішне.
О, як мала песні
трэба сілы...
А дзе ўзяць яе, скажы, мой мілы!

* * *

Крыніца мудрасці пяшчотай ці праб'ецца?
Ці ўсе знаходзім светлы той выток?
Ці кожны з нас яе святлом пральецца?
Ці праглынуць паспее хоць глыток?..

Крыніца смутку, радасці, развагі,
Ты напаіла — ты і абнадзей...
Паставіць час святло і цень на вагі —
Данесці б думку сэрцам да людзей!

## *Прасвятленне*

Тут не ад знявагі сэрца плача —
Светлых дум вачэй і слоў нястача.
Музыка гучыць, як ачышчэнне...
Музыка — узлёт у спалучэнні...
... Ах ты, аўдыторыя пустая!
Чую — крыўда Музы нарастае.
Бачу — годнасць Музы расцвітае.
І высока зноў душа вітае.

## *Дзень нараджэння*

Адчуваю свой дзень нараджэння —
Дзень трывог і сутнасці сцвярджэння,
Дзень ідэі,
Дзень святла зямнога,
У які душа баліць занмога.

Адчуваю свой дзень нараджэння —
Дзень надзей і воч маіх свячэння,
Дзень любові і журбы з'яўлення,
Дзень цярпення, веры і натхнення,
Дзень гарэння аж да азарэння,
Дзень майго зямнога узвышэння.
Хай не будзе дзён душы падзення —
Адчуваю свой дзень нараджэння!

* * *

За лепшы дзень у розны час
Душа змагалася не раз.
На лепшы дзень у новы час
Бяру я веру пра запас.
Па-рознаму ідзе змаганне...
Бяссонніца чакае рання,
Бяссонніца рыхтуе бой.
А дзень як быццам за гарой,
Такі санлівы, невыразны...
Каб хоць па сэрцу ён не бразнуў.
Няроўнае ідзе змаганне...
Не дай мне, дзень, расчаравання.
І ты мне, вера, сэрца грэй,
Што ранак вечара мудрэй.

* * *

Добра, што ціхі вечар
Нам распрамляе плечы.
Мы паздымалі маскі —
Дзецям чытаем казкі.

Добра, што ноч гуляе,
Сны на зямлі люляе —
Месяц з нябеснай хвалі
Згоднасць людскую хваліць.

Шчасце: прамень — у вочы.
Дружна выходзім з ночы...
Дзень, адпусці мне ласкі —
Шчыра іду, без маскі...

* * *

Кладзецца промень на расу з усходу —
Душа сцякае ўсмешліва ў прыроду.
На скоце дня даўжэюць нашы цені.
Куды мы думкі цяжкія падзенем?..
Такі матыў...
Як увабраць у словы
І колер дум, і смутак вечаровы?

## *Паспей*

Палёт душы,
Душы парыў,
Калі ўжо ўсё відаць з гары...
Куды сябе ні павярні,
А напамінак дзень пры дні:
Паспей з маленькім і старым
У добры час пагаварыць,
Паслухаць лес, зірнуць на зоркі,
Каб стаць чысцей ад той гаворкі.
Паспей прыйсці да адкрыцця —
Пражыта не гара жыцця.
Памылак зроблена гара
Сцяжынай шчырасці, дабра.

* * *

Зрабіла памяць думны віток.
Мусіць, з яго не выйсці нам.
Самотна кружыць жоўты лісток
І шэпча мне ў сэрца ісціну,
Што пражываем сваё жыццё,
Не паспяваючы вырасці...
Стаіць балючае пачуццё
За філасофіяй шчырасці.

* * *

Ускалыхніся, светлая хвілінка,
Зазеляней, маркотная галінка.
Сплывi ты назаўсёды, недарэчнасць,
Застанься, песня дня і чалавечнасць.
А што яшчэ раптоўна набяжыць? —
Боль не пакіне —
                без яго не жыць.

## *Не страціць сэрца...*

Святло, і фарбы, і паветра...
У гэты свет — увесь твой рух,
І на крыло ты ўзняты ветрам,
А час зямны абводзіць круг...

Не страціць сэрца — вось ратунак!
І хоць акружнасць карацей
Вакол тваіх імклівых думак,
Трывог, пакутлівых надзей —

Не страціць сэрца б у палёце,
Пакуль не сціснецца твой круг.
Крыло стамляецца ў рабоце,
А недзе там вітае дух!

## *Узыходзіць імя*

Памяці камісара партызанскай брыгады
імя Данукалава — Я. Г. Дзягілева

... А салдат не было безыменных...
Лёг і я на пякельнай вярсце.
Праз гады каля дрэў летуценных
Узыходзіць імя на пліце...
Дзякуй — памяць сасну адшукала,
Дзе заціхла і сэрца, і бой...
Ёсць жывое імя Данукалаў...
І сасновая ціш — нада мной.
У дажджынках, расінках, праменні.
І зашэпча яна каля ног,
Калі дзеці мае на імгненне
Тут завяжуць вузельчык дарог.
Мой прытулак лясны безыменны
На апошняй пякельнай вярсце.
А ў Падсвіллі ля дрэў летуценных
Прачытайце імя на пліце!
А ці толькі тут словы з металу —
Можа, сэнсам святым прарасцём?
Дзе каго нас вайна пахавала —
Нашым помнікам стала жыццё.

## *Талент — жыць*

* * *

І начарую, і наваражу...
Дзень нада мною зноў прачнуўся небам.
Ты, чалавек, адкрый сваю душу —
Пагутарым!
У гэтым ёсць патрэба.

Маё жыццё, мой верш — перад табой.
Але ці ўсё ты вычытаеш з кнігі?
Дык пройдземся па шчырасці са мной —
Цяплей нам ад сардэчнае адлігі.

Пагутарым пра маладую рунь,
Пра зацвярдзелы пласт зляжалай глебы,
Пра дождж, які прыходзіць у пару,
Пра жоўты колас і пра бохан хлеба.

Пагутарым, каб прыбыло цяпла,
І узаемнай ласкі, і спагады.
Ёсць талент — не рабіць другому зла.
Мы таленту такому ці ж не рады?

* * *

На розных нотах новы час звініць.
І зноў ружовы вечар — на зыходзе.
І думаю я ў зорнай цішыні
Пра таленты касмічнага стагоддзя.

Усё растуць яны, нібыта лес.
А мне гарчыць,
гарчыць адно пытанне:
Ці будзе чалавечным той прагрэс?
Ці будзем мы, і росы, і світанні?
Ці разгарнем, зямля, тваю душу
У кветку шчасця — цішыні і мары?
Я начарую, я наваражу
Святлейшых зор —
Няхай не будзе хмары!

Няхай гуляе промень у вачах
Маёй дачушкі і дзяцей планеты.
Ляці, душа!
Ляці да чытача
І супыні яго на думцы гэтай!

* * *

Я слухаю, пра што гудзе эфір
Нам пад канец дваццатага стагоддзя.
Кіпіць душа трывогаю за мір,
Як ува мне, так і ў маім народзе.

Увесь наш сэнс жыццёвы — у жыцці!
І мы планету-дом не выбіралі.
Нас заклінае памяць дарасці
Да запавету тых, хто паміралі.

Давайце прачытаем пра вайну
Айчынную дванаццатага года.
Перагарнем старонку не адну
Пра дух і талент роднага народа.

Давайце прачытаем пра вайну
Сярэдзіны дваццатага стагоддзя.

Перажывем старонку не адну,
Перажывем для памяці!
І — годзе!

Няхай гавораць кніга і кіно
Нам пра вайну.
Самой вайны не трэба!
Глядзім у наба —
Светлае яно?
О, чалавек,
здымі пагрозу з неба!

Мы ад трывог не маем выхадных,
Бо тыя, хто загінуў тут, не ўсталі.
Ёсць талент — жыць на свеце без вайны.
Народы свету, пакажыце талент!

## *Маналог сумлення*

Даруе звер табе, о чалавек,
За той далёкі першабытны век,
Калі на самым жорсткім паляванні
Змагаўся мужна ты за існаванне.
Не ведаў прашчур твой інакшай мары.
Быў паляўнічы, і была ахвяра.
Яшчэ ты думкі не вынашваў злой,
Яшчэ ты не здаволіўся ядой,
Руку кап'ём падоўжыў і стралой...
... Тады і стаў для маманта бядой.
І новы дзень ішоў, і новы век.
І горшым стаў за звера чалавек.
Заплакалі алень, і тур, і лань:
«Ты — чалавек,
ты добрым богам стань!»
Стагнала просьба пад смяротным векам.
Сумленне моцна спала ў чалавеку.
А што яшчэ там, што яшчэ было?
Галубка Марта сцішыла крыло?
І чалавек у паляўнічым гарце
Стварыў жыццё:
у чучале — гагарцы.
Кроў звера — на гісторыі... Як сон,
Быў на зямлі даверлівы бізон.
Начыста выбіў звера чалавек.
Так у нябыт пайшоў бізонаў век.

Вось ён, жыхар амерыканскіх штатаў —
Карціна-сведка мастака Бірштата.
Няўжо апошні? Лютая рука!
І чарады няма і... важака!
Гісторыя... Час панаставіў кропак.
Звярэла паляваннямі Еўропа.
Амерыка бізонаў вынішчала.
Сумленне чалавечае маўчала.
Забойца працвітаў і сілу мераў
Са шматзарадных ружжаў, рэвальвераў.
І радасць рот цягнула да вушэй,
Калі крывёй успыхвала мішэнь
І падала, ляжала без патрэбы,
Каб здзіўлена глядзела толькі неба...
Ты помніш, стэп амерыканскіх прэрый,—
Жыў чалавек і цэліўся у звера?
Жыў чалавек і цэліўся у звера.
Ці толькі ў звера?..
                                        Нарастала зло.
І крыўда, і трывога новай эры...
Але пра гэта — іншы маналог.
Боль сочыцца з глыбінь...
                                                Жыве надзея,
Што чалавек — не звер. Не парадзее.
Бізон — да слова.
                                        Можна пра зубра,—
Ужо да нас бліжэйшая пара...
Жыццё і факты.
                                        Глянем з аддалення.
Была ж, была і радасць прыручэння...
Час наступіў ці страху, ці сумлення,
Ці дабрыні, ці розуму свячэння —
Стаў чалавек каля мяжы даверу
І павініўся перад птушкай, зверам.
Ён павініўся перад птушкай, зверам.
Сумленне давяраць пачаў паперы.

Ляцелі фразы гучныя і словы,
А голас крыўды далятаў з дубровы.
А голас крыўды далятаў з блакіту —
З нябёс сучасных, а не з неаліту...
Усё ж душа заплача — не папера
За чалавека, птушку і за звера.
Сама вясна не прадчувала болю.
І сонца птушцы гладзіла крыло.
Свяцілася чарнобыльскае поле.
І ў небе светла воблака плыло.
Галінкі цёплы вецер ціха гушкаў,
Пралескі дачакаліся пары...
«... Даруйце ж, насякомыя і птушкі!
Даруйце, кветкі лесу і звяры! —
Сябры гаспадароў сваіх, даруйце!
Гаспадары сяброў сваіх, сумуйце! —
Прамовіў горка добры чалавек,—
Што нарабіў я у сучасны век!»

Душа загаварыла — не папера:
«Хачу я спадзявацца, жыць і верыць...
Не крыўдзі птушку, звера, чалавек,
І качку, і бабра у ціхі рэк!
Трымай, зямля, жыццё палёў, бароў,
Як пушча Белавежская зуброў!
Трымай, зямля, заступніка жыцця,
Цяпер не многа ў сэрцах пачуцця.
Ты злітуйся над намі, новы час,—
Ратуй душу — яна ж была і ў нас!..
Не крыўдзі птушку, звера, чалавек!
Перавядзі ты іх у новы век!

Не крыўдзі чалавека, чалавек!
Ачалавеч ты свой імгненны век!
Лячы сябе ад зайздрасці хутчэй,
Хай льецца згода промнямі з вачэй!

Ад думкі згубнай ты сябе адпрэч,
Сумленне і душу ачалавеч!
Прыйдзі ў сябе, о мудры чалавек!
Інакш няма табе ніякіх лек.
Хто бедаў напрарочыў і пагроз,
Калі ты сваю праўду-матку нёс
І каласком на ўзрытым полі рос?
Расціў ты веру. Вырасціў неўроз.
Расціў жыццё. А згуба — тут як тут.
Пазбаў планету-маці ад пакут!
Ёй цішыню жывую гарантуй!
Ачалавеч брат брата і ўратуй!
Ратуй сваё імя, о Чалавек,
У самы пры́ткі і трывожны век,
Каб не згубіць апошняга вясла —
Не апынуцца ў акіяне зла!»

# *Песня пакрыўджанай вясны*

Дзеці ў клопаце шчырым
Лепяць хаткі са жвіру.
А калектыў крылаты
На дрэвах будуе хаты.
Свята радасці.
Навізна.
На зямлі і ў небе —
вясна.

На зямлі і ў небе вясна.
Ці асветлімся да ясна?
А можа, па нейчай волі
Нехта зрэжа таполі?
Махам зваліць таполі,
Дзе гнёзды калыша воля?
Адкрытыя сонцу, хмары?
І смутак па песні ўдарыць?

Галіначкі, гушкі-гушкі!..
Снуюць нада мною птушкі.
Саломінкі грацыёзна
Узносіць грак на будоўлю.
Я ў песні горкай і лёзнай
За іх хоць слоўца замоўлю.
Птушкі прасіць не ўмеюць,
Хабарыць і біць паклон.

Ляцеў раўнадушша цыклон.
Ляцеў раўнадушна цыклон.
Стагналі і трэскаліся таполі

На драме птушынай долі.
Нашы зялёныя вартавыя
Сыпалі гнёзды жывыя.
Сыпалі гнёзды жывыя
На вуліцы крыжавыя.
І быў у дзяцей занятак —
Праўды той вы не ўмальце —
Што засталося ад птушанятак,
Збіраць на мокрым асфальце.
Была працоўная раніца.
Людзі не сталі раіцца,
А проста выканалі загад
Таго, хто — не звер і не гад...

## *Гора птушак*

Галіначкі, гушкі-гушкі...
Па дзецях плакалі птушкі.
Чарнела роспач на грунце:
«Дзетак... дзетак ратуйце!»

## *Гора людзей*

Па птушках плакалі дзеці,
Калі не другі, дык трэці...
Збіралі іх, цёпленькіх, у кашы.
Каму хочаш, таму кажы.
Каго хочаш, таго прасі,
А радачкі не дасі...
Галіначкі, гушкі-гушкі...
Людзям даруйце, птушкі!

Яны так не будуць болей.
Трымайцеся, дрэвы таполі —
Яны так не будуць болей
Крыўдзіць вясну да болю.
Скажыце, дзеці, у школе —
Яны так не будуць болей.
Мы раўнадушна расколем
Дома, у лесе, у полі?..

А калі трэба будзе
Зрэзаць таполю людзям,
Давайце, дзеці, папросім,
Каб зрэзалі яе ўвосень.

Галіначкі, гушкі-гушкі...
Жывіце на дрэвах, птушкі!
Наша вам шанаванне!
Шчаслівага гнездавання!
Галіначкі, гушкі-гушкі...
Шчаслівага лёсу, птушкі!

# *Сцежкі памяці*

Ляжаць у зямельцы адной
Усе, загубленыя вайной...
Хто ў лесе, полі, каля дарогі...
Сцежкі бягуць па многіх.
І вецер шэпча зялёны
Пра вочы іх і імёны.

Ля абеліскаў — бярозкі, клёны.
На плітах Славы стаяць імёны
У лесе, полі, каля дарогі.
Прыйшлі імёны да Перамогі.

Стаіць салдат нерухомы.
Сцішымся ля яго мы.
Час няспынны, імклівы,
Хор птушыны гуллівы —
Голас зямлі вясенняй
Не выведзе з задумення,
Неба памяці не захмарыць,
Промні думак не перасее...

Прыехалі дзеці да камісара
Дзягілева Яўсея.
Сталі перад салдатам:
— Дзень добры, тата...
(Лес зашумеў удалечы...)

Тата, я — сын твой Валічак...
Які сум па табе чэрпае
З трыццатага чэрвеня...
— Сынок, ты ведаеш, дзе я?..
Чытаюся на пліце я...
Жывыя перасялілі
У брацкую...
У Падсвілле...
Ды ёсць я і ў тым бары,
Са мной там пагавары...
Ты стаў ветэранам, Валічак?..

Лес зашумеў удалечы.
За хутарком Альхоўка
Славіць вясну салоўка.
...Лісток аб лісток трэцца,
Памяць шуміць, як дрэўца.
Думка аб думку трэцца,
Не згледзянець, не сагрэцца.
Ну, што гэта на душы? —
Жывы жывому скажы.
Ціха скажы брат брату:
Лёню скажы Валяр'ян...

— Не прамінула тату
Зграя таго звяр'я...

Водгук памяці паўтарыў
Усю вайну... І прарыў...
Кальнуў, узрушыў, заныў.
Рана не мае лячэння —
Чатыры гады вайны...
Чатыры дні да злучэння...

Тата, мы боль свой чэрпаем
З трыццатага чэрвеня.



9. Зак. 895.

Ляжаць у зямельцы адной
Усе, загубленыя вайной.
А далечыня яснее,
На пліты помнікаў промні сее.
Дажджы праходзяць па абелісках
Каля далёкіх дарог і блізкіх...
І вецер шэпча зялёны
Пра вочы іх і імёны...

Салдат над брацкім прытулкам,
Ім тут няцесна, нямулка?
І хлопчыку Мармашову?
Выходзіць ранак ружовы.
З-пад лесу, з-пад вёскі
Ідуць памяці пагалоскі...
Па юнаму Васю з Росна
Сумуюць неба і вёсны.
Ідуць з кветкамі піянеры
Да абеліска у сквярык.
Ідзе трэцяе пакаленне.
Салдат, ты ўсё ў задуменні?
Ты не пазбыўся трывогі
І ў ясны дзень Перамогі?
Глянь, як вясна абступіла
Цябе над брацкай магілай
Шэптам лісця, травы,
Удзячная ім за жывых.
Вунь дрэўца на тонкай ножцы
Глядзіць на цябе, пераможцу.
Свята, салдат, збылося.
Ды смутак застаўся ў лёсе.

З-пад лесу, з-пад вёскі
Ідуць памяці пагалоскі...
Варушыліся курганы
Вялікай Айчыннай вайны.

Зноў пачыналася пахаванне
Галынскага Вані.
Васемнаццаць...
А ці было?..
Гадкоў жыцця небагата.
Раскінула,
Разнясло
Гранатай.
Узнагароджаны
пасмяротна.
Маркотна...

Тут было трэцяе пахаванне
Галынскага Вані.
Не ляжалася у зямлі...
Першую магілку
снягі замялі,
Другую дрэвы ценем укрылі,
Трэцюю памяццю азарылі...
Што засталося ад Вані
Пасля трэцяга пахавання?
Пасцель яму перасцялілі,
Сюды навечна перасялілі.

А колькі ж не перавезена
З-пад вёскі Дабрэзіна,
З-пад вёскі Альхоўка, Зашчэсле...
Дамовак не будавалі цеслі,
Не габлявалі дошак дубовых,
Жылі-былі маці, удовы,
Таты, сыночкі, дочкі...
Ляжаць, хто дзе,
не ў радочкі.

Ляжаць у зямельцы адной
Не пераможаныя вайной:

Хто ў лесе, полі, каля дарогі.
Сцежкі бягуць па многіх.
І вецер шэпча зялёны
Пра вочы іх і імёны.

## *Уяўленне*

У ночкі — цёмная сарочка,
Грудзей сярэбраная голь.
У ночкі вочкі, як вірочкі,
І бровы чорныя як смоль.

Стаіла цёплае дыханне.
Крадзецца золак пакрысе.
І ночка ў сінім сарафане
Маю фантазію нясе:

Што вусны неба пасвяжэлі,
А луг пушысты, як прывід.
І травы летнія спацелі
Ад захаплення у крыві.

Туман успыхнуў сарамліва,
Занёс у неба рукавок,
Дзе бог святла рукой руплівай
Трымае чырвані вірок.

# *Люты*

*Алесю Жыгунову*

Руку мне люты падае.
Згадаю ў поціску зімовым
Снягі ружовыя свае
І мар убеленыя бровы.

І дзень такі залётным сном
Прыцішыць стомленыя словы,
Каб страпянуўся за акном
Пейзаж зімы двухкаляровы.

* * *

Во як насупіўся прамень,
І вецер спіць, увесь надзьмуты.
І ціха, роўна снежыць люты.
У снежны дзень згубіўся цень.
І роўна неяк на душы,
І спадарожнікі пакуты
Спачнулі крыху,
родны люты,
Ты іх пакуль не варушы.

* * *

Наш люты нам вясну ці прывядзе?
Мароз рыфмуе верш свой на вадзе...
А я рыфмую верш свой на самоце,
А я рыфмую верш свой на пяшчоце,
А я рыфмую верш свой на трывозе,
На сёлетнім раз'юшаным марозе.
А што ў нас там, а што на паvароце?..
Скажы, — адчай ці чорны грак на плоце?

## *Грамніцы*

Душа, якую навальніцу
Завея просіць на крыло?
Малоціць вецер на Грамніцы,
І сонца ў небе замяло.

Ці мне на рыфму наваліцца,
Ці так, як люты, зашумець?
Ці, можа, ў храме памаліцца
На абразоў святую медзь?

Каб вусны ціха шалясцелі,
Прыйдзі, вясна гаючых слоў!
Бяжыць зіма па грэшным целе —
Малітву часам занясло.

## *Надвор'е*

Калі з'явілася надломленасць —
Зірну разгублена назад?
Усюды восеньская стомленасць
І слоў азяблы лістапад.

Не вымахалі мы, не выраслі.
Кране пранізліва зіма:
І дрэўцы юныя — у сырасці,
І дзён зрыфмованых няма.

* * *

Засведчыць Муза з нейкае пары,
Што нашы думкі — даўнія сябры.
І хоць з маркотнай марай-варажбой
У лістапад мы стрэнемся з табой.

І ціха будзе, думна і прыгожа
У светлы дзень...
Дапамажы нам, Божа.

## Змест

**Баравік М.**

Б24 Вір пяшчоты і журбы: Вершы. — Мн.: Маст. літ., 1995.— 142с.

ISBN 985-02-0026-X.

У аснове паэтычнага зборніка — споведзь лірычнай гераіні, душы кволай і чулай, якая святлом і тугой адгукаецца на ўсе праявы жыцця. Тут і роздум аб пражытым, і сцвярджэнне нязгаснага промня ў чалавеку, сувязь з прыродай, замілаванне ёю, душэўны заклік дзівіцца жыццю, трывога за яго будучыню ў сувязі з чарнобыльскай трагедыяй.

Б $\frac{8820600000-054}{М302(03)-95}$ 33 — 95

**ББК 84(4Беи)6**

Літаратурна-мастацкае выданне

БАРАВІК МАРЫЯ ЯКАЎЛЕЎНА
*Вір пяшчоты і журбы*

Вершы

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак Г. Р. Малышаў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Я. Ф. Харко.

Здадзена ў набор 24.11.94. Падп да друку 01.03.95. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера афс. № 2. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 5,85. Ум. фарб.-адб. 6,01. Ул—-выд. арк. 3,29. Тыраж 1400 экз. Зак. 985.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11.